


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 30 (856) ГОД XVII БЕЛАСТОК 23 ЛІПЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


# ГРОДЗЕНСКІЯ АРТЫСТЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

На Беласточчыне гасцявалі самадзейныя артысты з Гродзеншчыны (БССР): Дзяляціцкая народная капэла калгаса «Сцяг Саветаў» Навагрудскага раёна і народны ансамбль танца «Раніца» Гродзенскага палаца культуры тэкстыльшчыкаў.

Калектывы выступалі ў Беластоку, Гайнаўцы, Кольне і пабывалі на экскурсіі ў нашай сталіцы — Варшаве.

Дзяляціцкая капэла існуе ўжо 45 год. Удзельнічала ва ўсіх конкурсах мастацкай самадзейнасці, атрымлівала ўзнагароды. У 1963 годзе хору прысвоена званне Народная харавая капэла.

У Беластоку Дзяляціцкая капэла выступіла ўжо другі раз. Першы раз былі яны ў нас у 1957 годзе. У рэпертуары хору шырока выкарыстоўваецца фальклор Навагрудчыны. Спяваюць яны і польскія песні.

Ансамбль танца «Раніца» створаны ў 1965 годзе ў горадзе Гродна. За актыўную дзейнасць атрымаў званне Народнага ансамбля танцаў. Атрымаў многа ўзнагарод. На ўсесаюзным аглядзе народных ансамбляў у 1961 годзе гродзенскі ансамбль заняў другое месца. У рэпертуары танцы беларускія, народаў СССР і польскія.

Беластоцкі канцэрт Гродзенскай зямлі адбыўся ў нашым прыгожым тэатры А. Вянгеркі. Канцэрт працягваўся дзве гадзіны. Зала была запоўнена. Хор спяваў у беларускіх народных уборах. У танцах уборы змяняліся разам з танцамі.

Найбольшыя бравы атрымалі лёгкія жартоўныя беларускія песні і народныя задушэўныя песні. («Куды ляціш, зязюленька»).

На нашых здымках сцэны з беластоцкага канцэрта.

Дзяляціцкая народная капэла пад кіраўніцтвам Марыі Даронінай — былой спявачкі капэлы і кадр з беларускага народнага танца «Лявоніха», выкананага з вялікім талентам і размахам, што і на здымку відаць. (вл)

*фота С. Грынявіцкі*



**Антоні Касповіч**

## ● ПАКАЛЕННЕ ●

Як парыжане дрыжалі ў падполлі
пад страхам кары,
мы — громам білі, крывёй сцякалі
на тратуары.

Гэта гранатамі бронемашыны
мы разбівалі,
свету, што Польшча жыве і змагаецца,
напаміналі.

Калі начамі над гарадамі
бомбы шыбалі,
плакалі маці, раннія ўдовы
і выклінали,

на небасхіле крыкам застыглі
нам, малым дзецям,
вогненны смерч і дыму заслоны —
Гузэн, Асвенцім!

Лёс наш абплакала ў полі мадонна,
што долу збіта,
нам зацвітае кветкай ружовай
Жэч Паспаліта.

**Пераклаў Сяргей Дзяргай**

# ДЭЛЕГАЦЫЯ ГП БГКТ У І-ГА САКРАТАРА ВК ПАРП

3 ліпеня г.г. І сакратар Ваяводскага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі ў Беластоку Здзіслаў Куроўскі прыняў дэлегацыю Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў складзе: Міхась Хмялеўскі, Янка Зенюк і Георгій Валкавыцкі. Дэлегацыя ГП БГКТ праінфармавала І-га сакратара ВК ПАРП аб ходзе падрыхтоўкі да VII з'езду БГКТ. Былі таксама абмеркаваны надзённыя задачы ў працы нашага таварыства.

Імчуся дарогамі Беласточчыны. З Беластока на Міхалова і далей на Нараўку — Гайнаўку — Кляшчэлі... Першы тыдзень ліпеня, серада. Спыняемся на палявой дарозе недзе між Бандарамі і Лукой. Пад воблакамі весела і бестурботна жаваранак выводзіць сваю адвечную песню, а перад намі шырокімі хвалямі пераліваецца ўжо крыху панажаўцелае жыта. Бяру калоссе ў рукі. Доўгае, налітае, цяжарнае ўраджаем...

Праз некалькі гадзін кляшчэлеўскі агранам Арыядна Младзяноўская сказала мне:

— Спадзяемся ў гэтым годзе ад 25 да 30 цэнтнераў з гектара.

Гэта ж рэдкасць на нашай Беласточчыне, а тым больш у наваколлі Кляшчэль, дзе зямля пясочная, не шчодрая на высокія ўраджаі.

— Аднак, — дадае агранам, — апошнія праліўныя дажджы з бурамі нам вельмі зашкодзілі. Каля сарака працэнтаў жыта — ляжыць. Такое ў мяне ўражанне пасля апошняй люстрацыі. Жніво будзе цяжкае.




Вось менавіта! Жніво ніколі лёгкім не бывае, а тут яшчэ натура... Ілюстрацыю слоў агранома сустракаю амаль на кожным кіламетры майго падарожжа. Цэлыя прасторныя пласты паложанага жыта, як свежыя раны на здаровым целе, чакаюць літасцівых рук селяніна. Не вытрымала яно цяжару намоклых каласоў, не змагло супрацьпаставіцца ўдарам буры. Агранам указвае прычыну:

— Гаспадары ўсё яшчэ сеюць загуста, і таму збожжа падае.

Гэта навука на будучыню. А цяпер? Цяпер трэба як найспраўней сабраць сёлетні ўраджай.

— Як вы падрыхтаваліся да жніва? — пытаю намесніка старшыні міхалоўскага ГС-у Віталія Янчука.

— Нашы пункты прыёму збожжа ў Міхалове і ў Шымках поўнасцю гатовы. Ёсць людзі для разгрузкі, у кожным складзе па два магазінеры. Працаваць яны будуць ад сямі раніцы датуль, пакуль не адправяць апошняга пастаўшчыка. Удалося нам дагаварыцца з СОП-ам, каб іх людзі адразу на месцы на працягу цэлага дня выплачвалі сялянам грошы.

Гэта вельмі важная справа. Няма ж ужо абавязковых паставак збожжа. Дык дзяржава атрымае яго столькі, колькі сяляне захочуць самі па ўласнай волі і патрэбе прадаць. Таму арганізацыя скупкі павінна быць так прадумана, каб заахво-

Працяг на стар. 4

# Фэстын у Літвінавічах



*Прыгожа спявала Аліна Высоцкая з Вілянова.*



*Да танцаў іграў вайсковы аркестр.*



*«Зорку Венеру» выконвае Галіна Сабалеўская з Сяміхочаў.*

Сёлетнія фэстыны, якія арганізуюць павятовыя аддзелы БГКТ супольна з іншымі ўстановамі і арганізацыямі, праходзяць пад знакам святкавання 50-ай гадавіны ўтварэння СССР і 90-ай гадавіны з дня нараджэння буйнейшых беларускіх паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пад такімі ж лозунгамі адбылося 25 чэрвеня традыцыйнае БГКТ-оўскае свята ў Літвінавічах Сямяціцкага павету. Фэстыны адбываюцца ў гэтай вёсцы невыпадкова. Перш за ўсё таму, што жыхары і моладзь Літвінавіч шырока вядомы сваёй актыўнасцю. Асабліва моладзь. Па яе ініцыятыве ў мясцовай святліцы была ўкладзена новая падлога, устаўлены новыя вокны і дзверы. Добра дзейнічае тут мясцовы драмгуртоок. Апрача таго, варта адзначыць, што Літвінавічы прыступілі да конкурсу «Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная». Асабліва адзначалі гэта пры нагодзе сакратар павятовага камітэта ПАРП у Сямяцічах Вацлаў Майсюшка і старшыня ГРН у Клюковічах Уладзімір Дамалюк.

*Спяваюць дзяўчаты з Мікулічаў: Вера Манцюк, Марыся Манцюк і Надзя Мікалаюк.*



*У мастацкай праграме выступіў вакальна-музычны калектыў з ПДК у Сямяцічах.*

На сёлетні фэстын арганізатары рыхтавалі багатую праграму, у тым ліку турнір вёсак, спартыўныя спаборніцтвы, паказы моды і г.д. Планы «пакрыжаваў» аднак амаль бесперапынны дождж. Таму асноўная частка праграмы адбывалася ў святліцы. Але спартыўных спаборніцтваў і іншых планаваных мерапрыемстваў не было. Многа ўсё ж уражанняў далі ўдзельнікам фэстыну выступленні вакальна-музычнага калектыву з павятовага дома культуры ў Сямяцічах і выступленні рэгіянальных мастацкіх калектываў. Выступалі тут спевакі з Мікулічаў, Вілянова, Стоўбцаў, Клюковічаў і Сяміхочаў. Асабліва прыгожымі галасамі вылучаліся Аліна Высоцкая, Марыся Дмітрук і Ліля Жэрун з Вілянова, дзявочае трыё з Мікулічаў (на здымку) і іншыя. Таленавітых маладых спевакоў тут не бракуе. Пасля адбыўся літаратурны конкурс, а затым конкурс для ўсіх тых, хто меў жаданне спяваць. Праходзіў ён пад загалоўкам «Мікрафон для ўсіх». У літаратурным конкурсе перамаглі Ірэна Якімчук і Вольга Якімчук са Стоўбцаў, а ў песенным конкурсе — Марыся Тафілюк і Галіна Сабалеўская. Праграму дасканала вялі Яўгенія Маліноўская (ПДК Сямяцічы) і Мікалай Жабінскі (вёска Каянка). Пасля мастацкай часткі ўсе танцавалі пад гукі вайсковага аркестра з беластоцкай часці ВОП.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



*Танцы адбываліся на зялёнай мураве.*

* ⁂ *

# Школа ў Грыбаўцах

Праўда, зараз у школе ў Грыбаўцах Беластоцкага павету, як і ў кожнай іншай школе няма дзяцей, яны на канікулах, але наведалі мы яе яшчэ перад заканчэннем навучальнага года. Сустрэлі тады яшчэ вучняў і настаўнікаў. Вучыўся ў ёй 51 школьнік і працавала чацвёра настаўнікаў. Прыемна ў грыбаўцоўскай школе. У вочы адразу кідаюцца выстаўкі арыгінальных прадметаў, зробленых вучнямі на ўроках практычных заняткаў, якія вядзе настаўніца Апалонія Ляшчынская. Ёсць тут розныя постаці людзей і звяркоў, выкананых з кары, розных шышак і карэнняў. Смела можна сказаць, паглядзеўшы гэтыя выстаўкі, што вучні ўмела выкарыстоўваюць суседства лесу, а перш за ўсё яго багацце.

У цэлай школе прыкладны лад і парадак. Заходзім у школьную бібліятэку. Сустракаем тут настаўніцу Зіну Дзярманскую.

— Школьнай бібліятэкай карыстаюцца ў нас усе вучні, — кажа настаўніца. Ёсць у нас каля 1 500 кніжак, у тым ліку 400 на беларускай мове. Нядаўна атрымалі мы дадаткова беларускія кніжкі ад Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Кніжкі на беларускай мове ахвотна чытаюць усе нашыя вучні, паколькі ўсе навучаюцца роднай мове. Любоў да роднай мовы найлепш патрапіць у нас прывіць настаўніца Зося Галась. Вучыць яна ў нашай школе ўжо больш дзесяці гадоў. Шкада, што апошнім часам рэдка прыязджаюць беларускія паэты. Раней дык часта наведвалі нашую школу Алесь Барскі або Віктар Швед, а таксама прыязджала «Лявоніха».

Далей вядзем гутарку з дырэктарам школы Багданам Ляшчынскім.

— У нашай школе штогод вядзем акцыю «Шклянка гарачага малака кожнаму дзіцяці». Карыстаюць з яе ўсе, — гаворыць дырэктар. — Апрача таго, наша моладзь вядомая ў сваёй акрузе ўдзелам у шматлікіх грамадскіх чынах, якія ім толькі пад сілу. Садзіла яна лес у лясніцтве Валілы, а таксама працавалі пры рамонце і будове мясцовых дарог. Толькі сёлета пасадзілі мы 4 га лесу. Вучні ахвотна дакармляюць лясных звяркоў і птушак узімку. Апрача таго, ліквідуюць сотні пастак, якія тут ставяць шматлікія браканьеры. За гэта асабліва ўдзячны ім члены паляўнічага гуртка ў Гарадку. Школа добра забяспечана навуковымі дапаможнікамі. Дастаткова ёсць тут і спартыўных прыладаў. Школа мае таксама добрыя вынікі ў спорце. Школьная каманда часта ўдзельнічае ў розыгрышах з іншымі камандамі.

Мы даведаліся, што заняткі па фізкультуры вядзе сам дырэктар.

На развітанне вучні захацелі мець супольны памятны здымак. Аднак ва ўсім перашкодзіў нам дождж. Таму прыгадаю толькі прозвішчы выдатнікаў з гэтай школы, якім належаўся здымак у першую чаргу. Выдатнікамі з'яўляюцца: Веслаў Лукша (клас III), Юрка Лукашук (II), Янка Абрамовіч (II), Гражынка Грыка (III), Эля Грыка (IV), Ёля Грыка (V), Янка Бопко (V), Міраслава Зданоўская (VI), Ліда Абрамовіч (VII), Яўген Навіцкі (VII) і Марэк Кулеша (VII). Усе яны перадавікі і ў вучобе і ў грамадскай працы.

*Я. Цялушэцкі*



# Добры гаспадар

Маладосць сваю ўспамінае неахвотна. Не была яна ні шчаслівая, ні вясёлая. З двухгектаравай, у кавалках гаспадаркі трэба было выжыць шасці асобам. У аднаізбовай хатцы было цесна. Летам спалі ў стадоле: свабадней і больш свежага паветра.

У перыяд акупацыі паскаштаваў нявольніцкай працы ў Нямеччыне.

Новыя часы адкрылі перад Уладзімірам Салаўём з Лявонавіч, Беластоцкага павету новую жыццёвую дарогу. Вярнуўшыся ў родную вёску, пабудаваў вялікі сучасны дом. Потым дакупіў зямлі (так склалася, што застаўся на гаспадарцы адзін, малодшыя браты і сястра знайшлі працу ў іншым месцы). Пабудаваў частку гаспадарчых будынкаў. Так пачаўся новы раздзел у гаспадарцы Уладзіміра Салаўя.

Цяпер у яго [illegible]цігектаравая гаспадарка. З'яўляецца адным з найбольш працавітых людзей у вёсцы. У мінулым годзе атрымаў 24 цэнтнеры збожжа з аднаго гектара. Асабліва клапоціцца аб жывёлагадоўлі. За апошнія паўтара года прадаў дзяржаве 35 кармнікаў і 4 каровы. Штодзённа дастаўляе ў злеўню 43 літры малака. Таксама прадае дзяржаве значную частку збожжа.

— Працы ў мяне шмат, — гаворыць Уладзімір Салавей, — бо працую толькі з жонкай. У хаце памагае маці. Аднак праца мая аплачваецца. Карысць мае і дзяржава і я. У апошніх гадах шляхам угнаення значна паправіў я структуру сваёй зямлі. У мяне шмат гною, аднак кожны год купляю каля 1320 кг штучнага ўгнаення ў чыстым складзе. Праўда, уласных гаспадарчых машын не маю, але лічу, што пакуль магу без іх абыйсціся: усе паслугі ахвотна робіць МБМ у Шымках. Найбольш аплачваецца мне жывёлагадоўля. Таму імкнуся стварыць добрую пашавую базу. Купляю добраякасны корм.

Столькі сказаў аб сабе Уладзімір Салавей. А вось што гаворыць аб ім старшыня прэзідыума ГРН у Шымках Уладзімір Крупіцкі:

— Гэта працавіты гаспадар з сучаснымі думкамі на метады гаспадарання. Перадавік! Ніколі не занядбоўвае сваіх абавязкаў перад дзяржавай. Гэта не толькі добры гаспадар, але таксама і добры сусед.

*Мікалай Гогель*

АГЕНЦТВА АБС (Тана Аба Сказала) ПАВЕДАМЛЯЕ

## РАТУЙМАСЯ ПЕРАД ВАР'ЯЦТВАМ!

18.VI.72 г. Беласток. Вуліцы Міцкевіча, Навоткі і Падлесная. Судны дзень! Інвазія вар'ятаў! А афіцыйна: мотагонкі. Аказваецца — спорт. Несамавітая трасканіня матораў. Бяспрыкладнае трапанне нерваў мірных жыхароў. Нядзеля! Усе шукаюць спакою ў дамовым зацішшы. А тут з самай раніцы такое пекла. Хоць з хаты ўцякай. Але куды? Пад колы гэтых ашалелых хуліганаў на грымячых маторах? Ганяюцца кругом. Безупынку! Ніякага тут сэнсу, ніякай разумнай мэты. От, спадабалася гэтае месца і шалеюць тут ужо штогод.

А здавалася б, ёсць закон, які гарантуе спакой у горадзе! А тут ад гэтага мотагоннага рову і смуроду самому звар'яцець можна. І ніхто не спяшае на ратунак. Ахоўнікі парадку замест лупіць мандаты за парушэнне спакою, абступілі вуліцы і варон ловяць.

Людзі, апамятайцеся, падумайце, колькі тут дамоў, колькі ў іх людзей не заўсёды са сталёвымі нервамі. Ёсць тут, несумненна, хворыя і старыя. Перад імі нічым не апраўдаеце вулічнае вар'яцтва прыпаяных да матораў шукальнікаў моцных уражанняў. Хай іх шукаюць за горадам, у полі, у лесе. Хай там шалеюць! Навошта атручваць жыццё людзям? Навошта аглушаць іх, навошта смуродзіць ім, навошта даводзіць іх да псіхічных траўмаў? Парайце, што рабіць?

КВД (кандыдат у дом вар'ятаў).

Ад цэнтра АБС: Поўнасцю згаджаемся з вамі. Такія мерапрыемствы нічога супольнага са спортам не маюць і не павінны адбывацца ў горадзе. Спосаб супраць іх адзін: у наступным годзе вызначыць трасу мотагонкі па вуліцы, на якой жыве старшыня гарадской рады. Толькі ці наша прапанова жыццёвая?

# НІЎКА

## Талабаломка

Фігура складаецца з 35 светлых і 14 цёмных клетак. Закасуйце яшчэ 14 клетак так, каб у кожным гарызантальным і вертыкальным радзе і на абедзвюх дыяганалях аказалася б па 4 цёмных і 3 светлых палі.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

## РЫЦАР

*Дзяўчына.* Вы вельмі смелы чалавек, калі адважыліся выратаваць мяне.

*Пажарнік.* Гэта так. Я быў вымушаны скінуць уніз трох такіх жа рыцараў, якія кінуліся вас ратаваць.

*Г. Зотаў*

## ТАРАСАВА РАДАСЦЬ

Вельмі рады дзед Тарас:
Правялі ў кватэру газ,
І у першую чаргу
Выкінуў ён качаргу.
Плешча з радасці ў ладкі:
— Жонка, новыя парадкі!
Больш мяне не будзеш, Тэкля,
Качаргой пужаць, як пеклам.
Кажа жонка: — Ты, Тарас,
Пагражаў мне сам не раз,
Выхваляўся, будзь здароў:
Кіну — будзеш жыць без дроў.
Давай жыць, мой дарагі,
Без пагроз і качаргі!

*Уладзімір Лявіцкі*

## КРЫТЫЧНАЯ АСОБА

Не жаў, не сеяў, не араў —
Адно ўсіх сам
крытыкаваў.

## АСА І ЯЕ МАРАЛЬ

Калегу муху раскрытыкавала
За тое, што яна не мела джала.

— *Мар'я, госці ўжо пайшлі?*

## УЗРОСТ КАХАННЯ

— Бабуля, вам споўнілася сёння семдзесят гадоў... Скажыце, да якога ўзросту можа кахаць жанчына?

— Пакуль што, унучкі, на гэтае пытанне я не магу адказаць. Магчыма, Іваніха вам штонебудзь скажа, яна старэйшая за мяне.

— Ну чаго ты да мяне іх пасылаеш? — пакрыўдзілася Іваніха. — Я, вядома, не стану ўтойваць, што старэйшая за цябе на дзесяць гадоў. Але адказаць на гэтае пытанне не магу. Няхай лепш спытаюцца Сцяпаніхі. Ёй, бадай, больш за дзевяноста...

*Зноў на рыбу?!*

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Сучасны малады габравец гаворыць свайму дзядулю:

— Дзеду, цяпер модна купляць сваім унукам аўтамабілі, калі ўнукі носяць такія ж імёны, як і дзяды.

— Я старамодны чалавек, хлопча, — пачуўся адказ.

## ПАПУГАЙ

Пакупнік звяртаецца да прадаўшчыка зоамагазіна:

— Мне патрэбны папугай, які гаварыў бы па-італьянску і па-французску.

— Вам вельмі пашанцавала, сіньёр. Менавіта такога папугая мы атрымалі толькі ўчора. Вось ён. Да кожнай ножкі ў яго прывязана вяровачка. Калі вы пацягнеце за левую — папугай загаворыць па-італьянску, калі за правую — па-французску.

— А калі за абедзве адразу?

— Разарвеш мяне папалам, дурань! — не вытрымаўшы, крыкнуў папугай па-нямецку.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі і Любы Казімерук, Любы Нэстэрук з вёскі Грабавец Бельскага павету змяшчаем песню

## • PRZEPUSTKA •

słowa: Wojciech Fiwek
muzyka: Piotr Marciszewski
KAZACZOK

1.

W lewo! W lewo zwrot!
W prawo! W prawo zwrot!
Lewą! Lewą marsz!
Lewą marsz!
Hej!

Przepustka jest,
więc w miasto gnam,
z piersią do przodu, jak na defiladzie,
gdzie spojrzę, to już, dziewczęca twarz cud,
promienna, jak wiosna, urzeka i zwodzi.
Co dwa, co krok przeżywam szok,
aż oczy bolą od barwnej ulicy,
tu czarne, tam blond,
uśmiechy mi ślą,
a nóżki... marzenie spod mini-spódnicy.

Daleko stąd dziewczyna tęskni, płacze,
po nocach pisze znów do niego list,
że ciągle kocha i chce go zobaczyć,
On na przepustkę wyszedł znów dziś.
W lewo! W lewo zwrot!
W prawo! W prawo zwrot!
Lewą! Lewą marsz!
Lewą marsz!
Hej!

2.

Przepustka ta
nagrodą jest,
idę radosny, strzelam okiem wkoło,
a dziewcząt tłum wciąż otacza mnie,
więc walę im w dach i jest mi wesoło.
Co dwa, co krok przeżywam szok,
aż oczy bolą od barwnej ulicy,
tu czarne, tam blond,
uśmiechy mi ślą,
a nóżki... marzenie spd mini-spódnicy.

Daleko stąd dziewczyna tęskni, płacze...

3.

Przepustka już skończyła się,
za tydzień znowu będę na spacerze,
Wartownik mi — „cześć",
dziewczyny — pal sześć!
Znów jestem wśród swoich.
Dobrze być żołnierzem!

W lewo! W lewo zwrot!
W prawo! W prawo zwrot!
Lewą! Lewą marsz!
Lewą marsz!
Hej!

## У ШПІТАЛІ

Пасля няшчаснага выпадку матацыкліст звяртаецца да суседа па палаце:

— Здаецца, я вас дзесь сустракаў.

— Таму і ляжым тут абодва, што сустракаў.

## СЯБАР

— Я стаў цяпер больш піць, Кастусь, таму, што ў мяне вялікае гора.

— Дазволь мне, дарагі Міхась, перажыць яго з табою.

# Курёзы

## НОВЫ ГАТУНАК ГРУШ

Аматару-садаводу з Гомеля Г. М. Жалудовічу ўдалося шляхам скрыжавання бэры зімовай мічурынскай і звычайнай вярбы вывесці новы сорт груш, які ён назваў вербная.

Грушы важаць: 200—250 грамаў. Мякаць буйназярністая, у ляжалых пладоў — духмяная, сакаўная, мядовасалодкая. Гатунак вельмі ўрадлівы.

«Чырвоная змена» (Мінск) зацікавілася работай селекцыянера-аматара і папрасіла кандыдата навук І. В. Шкілёўскага пракаменціраваць гэты незвычайны факт. Вось што ён сказаў:

— Дасягненне т. Жалудовіча мае вялікае навуковае значэнне, паколькі яму, нарэшце, удалося абвергнуць катэгарычнае сцвярджэнне аб тым, што на вярбе грушы не могуць расці. Гэта вялікае адкрыццё веку.

## НЕ У ВУХА, А У НОС!

Эсенская фірма, што спецыялізуецца ў вырабе ўпрыгожанняў для жанчын, рыхтуе к будучаму зімоваму сезону цэлую серыю новых мадэлей кліпсаў — ад сціплых, у выглядзе гладкага кальца, да элегантных, упрыгожаных дарагімі каменнямі, і вядома, дарагіх. Насіць гэтыя кліпсы заходнегерманскія модніцы павінны будуць, аднак, не на мочках вушэй, а на ноздрах.

## ПАДСАЛАДЗІЦЬ ПІЛЮЛЮ

Гарадское ўпраўленне горада Сан-Дыега (Каліфорнія) у сувязі з пастаяннымі скаргамі жыхароў на забруджванне паветра выхлапнымі газамі дало ўказанне аб дабаўленні да бензіну лаванды. Выхлапныя газы ад гэтага не сталі менш ядавітымі, а Сан-Дыега стаў адзіным горадам у свеце, дзе смог пахне лавандай.

Міжы намі

Умешвайся толькі ў свае справы.